

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1995 СТУДЗЕНЬ 26 ЧАЦВЕР

№ 16/ 944

Цана 60 рублёў

## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ

### СООТВЕТСТВУЕТ ЕВРОПЕЙСКИМ СТАНДАРТАМ

**22 января состоялась торжественная передача диагностического комплекса для детского хирургического центра 1-й минской городской клинической больницы.**

Его построили и снабдили всем необходимым немецкие друзья Беларуси из земли Северный Рейн-Вестфалия. Средства на строительство собраны организациями и гражданами Германии при активном участии созданного ими Фонда помощи детской хирургической клинике Минска.

В этот же день в Минском международном образовательном центре состоялась посвященная этому событию пресс-конференция. Разговор шел о планах на будущее, в частности, о приеме белорусских врачей их зарубежными коллегами. Для наших соотечественников будут организованы курсы по обучению работе с современной хирургической техникой.

Владимир ЛЕБЕДЕВ.

### В ОФИЦЕРСКОЙ ШКОЛЕ БИЗНЕСА — ВЫПУСКНОЙ

**В Колодищах состоялся третий выпуск слушателей Белорусского центра переподготовки и трудоустройства военнослужащих запаса Министерства обороны.**

«Путевку в бизнес» получили 135 бывших офицеров, прошедших обучение по шести специальностям рыночной экономики: менеджмент, маркетинг, финансово-кредитная деятельность, коммерческая деятельность, коммерческая деятельность на рынке товаров и услуг, внешнеэкономическая деятельность, бухгалтерский учет, анализ и аудит.

Более семидесяти процентов выпускников, по данным руководства центра, будут сразу же трудоустроены. Их ждут банковские структуры, инвестиционные фонды и компании, государственная налоговая инспекция, коммерческо-производственные фирмы.

Пресс-служба Министерства обороны — специально для Агентства РИД.

### 26 СТУДЗЕНЯ. 15.30. ПЛОШЧА СВАБОДЫ

**Мінскі гарвыканкам даў дазвол на правядзенне прафсаюзамі 26 студзеня мітынгу пратэсту.**

Аднак не на плошчы Незалежнасці каля Дома ўрада, як планавалася арганізатарамі, а на плошчы Свабоды. Каардынацыйны савет па арганізацыі акцыі пратэсту пачаў распаўсюджваць у працоўных калектывах рэспублікі лістоўкі, дзе ўтрымліваецца заклік прыняць актыўны ўдзел у праводзімых прафсаюзамі дзеяннях.

Ірына ЛЕЎШЫНА.

### ЭВМ — НА ЭКСПАРТ

**На Мінскім вытворчым аб'яднанні вылічальнай тэхнікі (МВАВТ) прайшлі выпрабаванні доследныя ўзоры новых высокапрадукцыйных ЭВМ агульнага прызначэння ЕС 1230 і ЕС 1181 з прадукцыйнасцю пяць і дваццаць мільёнаў каманд у секунду адпаведна.**

Мадэль 1230 прызначана для замены практычна ўсіх ЭВМ тыпу ЕС, пры гэтым яе хуткасць вышэй у пяць разоў, энергаспажыванне менш у 15-20 разоў, а займаемая плошча — у 10. Пры распрацоўцы машын выкарыстоўвалася сучасная элементная база. Мяркуецца выпуск гэтых ЭВМ на знешні рынак. Ужо заключаны дагаворы на іх пастаўку ў Расію. Сёлета плануецца пачаць таксама пастаўкі новых ЭВМ у розныя галіны беларускай эканомікі. Акрамя таго, на МВАВТ асвоены выпуск новай мадэлі канкурэнтаздольных персанальных камп'ютэраў, прызначаных для розных відаў дзейнасці, у тым ліку, для адукацыі.

Марат УРУБЛЕЎСКІ.

### АРЕСТА БЕЛОРУССКИХ ДЕНЕГ НЕ БЫЛО

**На прошлой неделе в печати было сообщение о якобы проведенном замораживании счетов Нацбанка РБ в Центробанке России.**

Однако сведения оказались не совсем точными. Как выяснилось, Центробанк РФ просто распорядился закрыть корреспондентские счета Нацбанка Республики Беларусь в других крупных коммерческих банках России. Таким образом, были лишь упорядочены финансовые отношения Центральных банков двух государств. Они обрели именно ту форму сотрудничества, которой придерживаются главные финансовые институты во всех цивилизованных странах.

РИД.

### КУРС ОБМЕНА наличной валюты в коммерческих банках на 26 января 1995 г.

| Наименование банка | Доллар США покупка | Доллар США продажа | Немецкая марка покупка | Немецкая марка продажа | Российский рубль покупка | Российский рубль продажа |
|---|---|---|---|---|---|---|
| КОМПЛЕКС | 11520* | 11790 | 7392* | 7681 | 2.69 | 2.83 |
| БЕЛВНЕШЭКОНОМБАНК | 11550* | 11800 | 7625* | 7790 | 2.4 | 2.8 |
| БЕЛАРУСБАНК | 11680 11700** | 12120* | 7570* | --- | 2.76* | 3.09* |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гл. оп. упр.) | 11600* | 11900* | 7500* | 7750* | 2.5 | 2.9 |
| НАРОДНЫЙ БАНК | 11450* | 11720 | 7440* | 7700 | 2.56 | 2.82 |
| ПРИОРБАНК | 11550 11650** | 11750 | 7630 7690** | 7760 | 2.3 | 2.85 |
| ПРОФБАНК | 11600 11700** | 11850 11950** | 7450 7500** | 7700 7750** | 2.65 2.8** | 3 3.1** |
| СБЕРБАНК | 11500 | 11780 | 7350 | 7600 | 2.5 | 2.75 |
| ОЛИМП | 11600 11646** | 11800 11883** | 7380 7410** | 7680 7734** | 2.71 2.79** | 2.8 2.95** |
| ДУКАТ | 11500* | 11750 | 7400* | 7700 | 2.5 | 2.95 |
| финансовая компания СОЛИД | 11500 | 11750 | 7300 | 7650 | 2.8 | 2.85 |
| МИЛАВИЦА филиал АКБ ДУКАТ | 11450* | 11720* | 7100 | 7550 | 2.4 | 2.9 |
| "ИНТЕРКОНТИНЕНТАЛЬ-СКВ" | информация на 9.50 не получена | | | | | |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гор.дир.) | 11550 | 11800 | 7450 | 7650 | 2.65 | 2.85 |
| ВЕЛЕС филиал АКБ ДУКАТ | 11550 11740** | 11800 | 7350 7750** | 7650 | 2.5 | 3 |
| ПОИСК | 11600 | 11800 | 7100 | 7600 | 2.4 | 2.75 |
| Филиал N 1 банка "ОЛИМП" | 11600 11658** | 11800 | 7300 7336** | 7600 | --- | --- |
| ЕВРОПЕЙСКИЙ | 11550 11700** | 11850* | 7350 7550** | 7700 7650** | 2.65 2.75* | 2.8 3* |
| ТРАНЗИТНЫЙ | 11500 11650** | 11700 12000** | 7300 7400** | 7650 7800** | 2.45 | 2.8 |
| БЕЛБАЛТИЯ | 11500 | 11680 | 7450 | 7550 | 2.65 | 2.85 |
| БЕЛИНВЕСТБАНК | 11300 | 11700 | 7300 | 7700 | 2.3 | 2.9 |
| МАГНАТБАНК ф-л 001 | 11350* | 11650* | 7270* | 7450* | 2.6 | 2.8* |
| ГУБИСС-РЕСУРС (за рос.руб.) | 11500 4100 | 11800 4300 | 7300 | 7600 | 2.7 | 3 |
| НАЦИОНАЛЬНЫЙ БАНК (официальный курс для б/н расчетов) | 11740.00 | | 7752.25 | | 2.87 | |

* -- возможна операция за наличный и безналичный расчет

** -- операция проводится только по безналичному расчету

В течение дня курсы могут меняться, курсы головного управления банков могут несущественно отличаться от курсов, установленных в обменных пунктах.

Информация (на 9 час. 45 мин.) подготовлена "Агентством Грекова".

☐ **КОРАТКА**

**Консульскае ўпраўленне Міністэрства замежных спраў Беларусі ў сувязі са з'яўленнем у сродках масавай інфармацыі паведамленняў аб дазволе безвізавага ўезду ў нашу рэспубліку жыхароў населеных пунктаў Друскінінкай і Ратнічаская Апілінка Варанскага раёна Літвы афіцыйна абвясціла, што ніякіх змяненняў у парадку ўезду-выезду ў Беларусь грамадзян Літоўскай Рэспублікі не адбылося.**

* * *

На Мінскім аўтазаводзе ідзе зборка 10 аўтобусаў МАЗ-101 «Неаплан», якія на 80 працэнтаў будуць складацца з айчынных камплектуючых.

Больш за 40 беларускіх прадпрыемстваў падключана да выпуску дэталяў для «Неапланаў».

* * *

**В последнее время в Минске возникли перебои в продаже сметаны, творожных изделий и кисломолочной продукции. Аналогичная ситуация сложилась по стране и с детскими молочными смесями.**

**Как пояснили в Министерстве торговли, ситуация объясняется уменьшением объемов закупок молока и задержкой доведения по областям заказа на поставку товаров для государственных нужд, в связи с чем не выполняются заявки на молочную продукцию.**

* * *

29 января в минском Дворце культуры железнодорожников состоится коллективный День отдыха для родителей с детьми.

В театральном зале народным цирковым коллективом Дворца будет дано представление. Перед началом спектакля в фойе откроются выставка-продажа товаров народного потребления и произведений декоративно-прикладного творчества, уголок фотографа и кафе.

* * *

**2 февраля предполагается приезд в Беларусь делегации Государственной Думы России во главе со спикером Иваном Рыбкиным.**

* * *

Белорусский научно-исследовательский инженерный центр (БелНИИЦ) освоил выпуск товаров народного потребления.

Среди последних новинок — телевизионные антенны для приема дециметровых и метровых волн, которые позволяют смотреть передачи 8 канала, Санкт-Петербурга, НТВ. В начале года выпущена первая серийная партия антенн в количестве 20 штук. В дальнейшем их производство будет ориентировано на спрос. Предполагаемая цена одной — от трех до десяти долларов.

* * *

**С 25 января в два раза увеличиваются тарифы на услуги автотранспорта междугороднего сообщения.**

**Как сообщили в МГП «Минскпассажиравтотранс», стоимость проезда в машинах мягкого типа отныне составит 130 рублей, в машинах жесткого типа — 120 рублей за один километр проезда. Увеличение тарифов на услуги пригородного автотранспорта пока не планируется.**

* * *

В Бресте прошло совещание экспертов комиссии по организации международных железнодорожных пассажирских перевозок. В нем приняли участие представители Беларуси, Болгарии, Польши, России, Украины, стран Балтии.

Основной темой обсуждения стало расширение и совершенствование системы льгот и скидок на пассажирские тарифы. Было достигнуто соглашение по снижению тарифов для детей из Чернобыльской зоны, выезжающих для лечения и оздоровления, а также для слепых.

### ПЛАТА ЗА БИЛЕТЫ — АПЛОДИСМЕНТЫ

ДК ветеранов приглашает любителей фольклора, а также театралов на творческие вечера, которые состоятся здесь в ближайшие выходные бесплатно.

28 января выступит фольклорный ансамбль «Горлица» из Белорусской политехнической академии. 29 января состоится концерт студентов школы-студии гильдии киноактеров Беларуси.

Начало вечеров в 16.00.

Елена КЛИМЕНКО.

ЛЮДЗЬМІ ЗВАЦЦА

## БІЦЬ У ЗВАНЫ,

### АЛЬБО ЧАМУ РОДНАЕ СЛОВА БЛУКАЕ ПА ПАКУТАХ?

**Закон аб мовах, які дзейнічае ў нашай дзяржаве пяць гадоў, выконваецца дрэнна, — заявіў учора на прэс-канферэнцыі для журналістаў старшыня парламенцкай Камісіі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны народны паэт Беларусі Ніл ПЛЕВІЧ.**

Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, «ДВ».

Нагадаўшы, якім драматычным і няпростым быў шлях да прыняцця закона аб дзяржаўнай мове, Ніл Гілевіч з жалем канстатаваў: блуканне роднага слова па пакутах працягваецца. Найбольш прымальная сітуацыя складваецца ў галіне адукацыі. І тут, зазначыў прамоўца, трэба «пахваліць настаўніцтва, міністэрства, якія прыклалі шмат намаганняў, каб нашыя школы рабіліся ўсё ж беларускімі». Называлася такая лічба: навучаннем на беларускай мове ахоплена каля 70 працэнтаў дзяцей першых і другіх класаў. «І калі гэты працэс не ўдасца павярнуць назад — а я спадзяюся на гэта! — родная мова будзе набываць усё больш шырокі ўжытак», — сказаў Ніл Гілевіч. І тут жы аптымістычна дадаў: «А загаворыць на беларускай мове школа — загаворыць на ёй і ўвесь народ».

Куды больш змрочны малюнак у іншых галінах нашай дзейнасці. Там за родную мову трэба змагацца па-сапраўднаму — біць, як кажуць, у званы! Бо закон аб ёй у многіх дзяржаўных установах выконваецца з грахом папалам. Іншыя ўладныя людзі і брывом не вядуць, каб праявіць аб роднай мове належны клопат, болей таго, лічаць яе за нішто, а то і ўвогуле наступаюць на горла. У гэтым недаацэньванні дзяржаўнымі мужамі самой моўнай палітыкі — падкрэсліў Ніл Гілевіч — сур'ёзная пагроза беларускай мове. Ён патлумачыў прысутным: бяда ў тым, што мову ў нас звычайна зводзяць да сродку камунікацый. Таму трывала і бытуе падыход: ат, маўляў, якая розніца, на якой мове гаварыць? Была б каўбаса, галоўнае. «Ні ў адной цывілізаванай краіне няма такога стаўлення да дзяржаўнай мовы, як у нас», — з горыччу вымавіў прамоўца, і нагадаў крылаты выраз аб тым, што мова — гэта душа народа. І менавіта так да яе трэба ставіцца.

Але чаму тут, уласна кажучы, здзіўляцца? Ніл Гілевіч працытаваў вядомыя публічныя выказванні нашага шаноўнага прэзідэнта, што далі штуршок да ажыўлення антыбеларускай дзейнасці... І зазначыў, што спадзяецца: інтэлігенцыі, усім свядомым людзям удасца пераканаць тых бацькоў, якія не хочуць, каб іх дзеці вывучалі беларускую мову. Бо гэтых людзей уводзяць у зман, на іх бацькоўскіх пачуццях спекулююць тыя, для каго беларускасць — бы костка ў горле.

На думку Ніла Гілевіча, закон аб мовах не выконваецца належным чынам яшчэ і таму, што няма дзяржаўных структур, якія б кантралявалі яго ход. І як не настойвала ягоная камісія, каб у кожным раёне і горадзе пры выканкамах была ўведзена адпаведная кантралюючая пасада, ніхто і брывом не варухнуў. Адмоўна, лічыць ён, адбіваецца на стане беларускай мовы і наша традыцыйна нядбайнае стаўленне да законаў увогуле.

Але ж гэты закон, як і Канстытуцыя, усё ж існуе. Чаму тады не даецца належны адпор так званаму сабору «Белая Русь», які, па сутнасці, нахабна займаецца антыдзяржаўнай дзейнасцю? — запярэчылі журналісты. Ніл Гілевіч вымушаны быў пагадзіцца, што парламенцкая камісія павінна дзейнічаць у гэтым накірунку больш рашуча. Як, дарэчы, і іншыя арганізацыі і таварыствы, што займаюцца вяртаннем нашай спадчыны.

Асабліва, — падкрэсліў прамоўца, — найвялікшая адказнасць у гэтай высакароднай справе кладзецца на працаўнікоў пяра. «Давайце ўратуем мову 10-мільённага народа! — звярнуўся ён да прысутных. — Ад нашых сумесных намаганняў залежыць, ці зойме матчына мова на Беларусі належнае месца — як займае яго любая нацыянальная мова ва ўсіх цывілізаваных краінах».

ДЗЕЛАВЫ МІНСК

## НЕПАЛ — НЕ ТОЛЬКІ ЭКЗОТЫКА

Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ.

Яркія ўражанні застаюцца ў падарожнікаў не толькі ад прыроды краіны, помнікаў дойлідства, але і ад страў нацыянальнай кухні.

На жаль, ніколі не быў і наўрад ці ў бліжэйшы час наведаю невялікае каралеўства Непал, што ў Гімалаях. Але непальскія прысмакі пакаштаваць давялося. На міжнароднай выставе «Бізнес-кантакт-95», якая праходзіць цяпер у Палацы мастацтваў, імі частуе фірма «БАБУ» з гэтай краіны. Даволі прыемны, хоць і не вельмі звыклы смак стравам надаюць разнастайныя травы, экзатычныя спецыі, якімі так багаты субтропікі.

У планах маладога гаспадара фірмы — Койрала Ачыут Бабу — адкрыццё ў Мінску маленькага рэстаранчыка нацыянальнай непальскай кухні. А таксама — гандаль скураной вопраткай, выробленай у гэтай краіне.

Непал дапамагае сваім грамадзянам-прадпрымальнікам, усяляк падтрымлівае іх экспансію на рынкі іншых краін (у тым ліку і гнуткай падатковай палітыкай). Да таго ж курс нацыянальнай грашовай адзінкі і цэны ў краіне застаюцца нязменнымі шмат гадоў. Гэтыя передумовы ствараюць, на думку маладога бізнесмена, неблагія перспектывы для яго бізнесу на Беларусі. Што ж, беларускім прадпрымальнікам застаецца толькі пазайздросціць калегам з далёкай азіяцкай краіны.

ПАНОРАМА ПРИЛАВКА



Новый магазин «Белорусские народные промыслы» открылся на Комаровском рынке. Он разместился на втором этаже крытого павильона. Традиционные белорусские изделия из льна и соломки, ткачество, трикотаж, оригинальные сувениры привлекут минчан и гостей столицы. За последние два месяца в республике начали действовать более 50 таких магазинов.

НА СНИМКЕ: управляющий делами Президента Республики Беларусь Иван ТИТЕНКОВ во время открытия магазина.

Фото Аркадия НИКОЛАЕВА, БЕЛИНФОРМ.

САДРУЖНАСЦЬ

## САММІТ НЕПАЗБЕЖНЫ

Выканаўчы сакратар СНД Іван Каратчэня сустрэўся ў Маскве са Старшынёй Савета кіраўнікоў дзяржаў Садружнасці Барысам Ельцыным. На сустрэчы абмяркоўваліся пытанні, звязаныя з прызначанай на 10 лютага сустрэчай кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін-удзельніц СНД у Алма-Аце. У прыватнасці, удакладняўся парадак дня пасяджэнняў, праходзіла пераразмеркаванне пытанняў, што падпадаюць пад кампетэнцыю або прэзідэнтаў, або прэм'ер-міністраў. Канчаткова парадак дня будзе сфарміраваны і зацверджаны пасля сустрэчы міністраў замежных спраў і плануемага на 3 лютага пасяджэння Міждзяржаўнага эканамічнага камітэта. Аднак ужо сёння можна сказаць, што на чарговым самміце ў Алма-Аце будуць разгледжаны праблемы, звязаныя з падрыхтоўкай да святкавання 50-годдзя Перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Рыхтуецца, у прыватнасці, сумесны зварот кіраўнікоў дзяржаў Садружнасці да народаў краін СНД і сусветнай грамадскасці, будуць разгледжаны пытанні падрыхтоўкі да міжнароднай навуковай канферэнцыі аб выніках Другой сусветнай вайны і значэнні перамогі над фашызмам. На сустрэчы ў Алма-Аце плануецца таксама разгледзець пакет дакументаў эканамічнага характару, абмеркаваць магчымасць стварэння Міждзяржаўнага валютнага камітэта. У галіне ваеннага супрацоўніцтва, магчыма, будуць разгледжаны праблемы забеспячэння заказамі прадпрыемстваў ваенна-прамысловага комплексу краін СНД і падрыхтоўкі ваеннаслужачых. Магчыма таксама, што будуць абмеркаваны праблемы аховы дзяржаўных межаў, у прыватнасці, краін азіяцкага рэгіёну.

Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.

## КРИМИНАЛ

Анатолий БЕЛОУС, «ДВ».

### У СТУДЕНТОВ-ФИЗКУЛЬТУРНИКОВ ПРАКТИКА?..

Сдается мне, у студентов Белорусской академии физвоспитания и спорта появился оригинальный факультатив. Форма обучения здесь — добровольная, иногда под винными парами и с криминальным оттенком. Это лишний раз доказывает случай, который отмечен в сводке милиции 20 января. В тот день ближе к вечеру нарядом роты ППСМ Московского РОВД на ул.Слободской по приметам был задержан один из студентов этого вуза, который в подъезде одного из домов сорвал с гражданина норковую шапку. Тут же выяснилось, что наш герой был под алкогольным «допингом»...

Двумя днями позже отличился еще один воспитанник этой академии. Правда, в его похождениях ему помогали двое жителей из Борисова, оба неработающие. Так вот, о подвигах этой троицы в Московском РОВД поведал водитель такси. Угрожая пистолетом, парни заставили его развозить их по городу. Сначала маршрут пролег к коммерческому магазину, что по ул.К.Либкнехта. Тут они вынудили шофера раскошелиться на две банки газированной воды «Фанта»... Затем таксомотор направился к жилому дому по ул.Щорса. В одной из квартир они начали избивать хозяина и ломать его аппаратуру. За этим занятием их и застала милиция, за помощью к которой обратился водитель. При досмотре у одного из хулиганов изъяли игрушечный пистолет. Вся троица водворена в изолятор. Возбуждено уголовное дело.

### «СКОРАЯ» НЕ ЗАПОЗДАЛА

Кровавый урок преподал во вторник своему сверстнику ученик восьмого класса одной из столичных школ. Аргументом в потасовке разъяренный школьник избрал холодное оружие. Установлено, что эта стычка одноклассников произошла в подъезде дома, где живет потерпевший. В результате подростковых разборок один получил проникающее ножевое ранение в грудь. К счастью, «скорая» не запоздала.

### ОГРАНИЧЕННАЯ БЕЗОТВЕТСТВЕННОСТЬ...

В прошедшую субботу с ветерком вознамерился прокатиться рабочий одного из обществ с ограниченной ответственностью. Сам он работал в подобной фирме и был несовершеннолетним. Недолго думая, лоботряс забрался в машину «БМВ», которая стояла возле офиса фирмы. Далеко новоявленный водитель не уехал. Выскочив на тротуар, он сбил пожилого человека, которого с переломами доставили в больницу. Словом, приехали...

### С ИНФЛЯЦИЕЙ ПРИХОДИТСЯ СЧИТАТЬСЯ

20 января Национальный банк Республики Беларусь разослал коммерческим банкам и своим головным управлениям телеграмму, в которой сообщалось, что ставка рефинансирования до 20 февраля 1995 года сохраняется на уровне 40% в месяц. Следовательно, на уровне 20 % рекомендовано устанавливать ставки депозитов до востребования и 32% — по срочным депозитам.

Так как Национальный банк заявлял ранее о постепенном приближении своей учетной ставки к темпам месячной инфляции, то, по всей видимости, последнее планируется в ближайшее время не ниже 45-50%. Тем не менее следует признать, что в связи с медленным ростом курса валют размещение свободных средств на рублевых депозитах более выгодно, чем на валютных.

РИД.

### ПАВЕДАМЛЕННЕ МІНІСТЭРСТВА СТАТЫСТЫКІ І АНАЛІЗУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб сярэднямесячнай заработнай плаце рабочых і служачых**

Мінстат Рэспублікі Беларусь паведамляе, што сярэдняя заработная плата рабочых і служачых у снежні 1994 года склала 262181 рубель (у лістападзе была 212024 рублі). У студзені-снежні яна склала 93058 рублёў і павысілася ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ў 15 разоў.

Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь.

### ВІНШУЕМ!

**Ганаровай граматай Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў узнагароджаны:**

**ЯМАЎ Аркадзь Рыгоравіч** — дырэктар завода № 407 грамадзянскай авіяцыі — за значны асабісты ўклад у тэхнічнае і навуковае развіццё авіярамонтнай вытворчасці і актыўны ўдзел у сацыяльным і эканамічным жыцці Кастрычніцкага раёна г. Мінска;

**ІЛЬІН Міхаіл Васільевіч** — намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі Мінгарвыканкама — за шматгадовую, добрасумленную працу ў сістэме прафтэхадукацыі;

**АНДРЭЕВА Элеанора Рыгораўна** — намеснік генеральнага дырэктара ВА «Мінскводаканал» — за шматгадовую добрасумленную працу ў сістэме камунальнай гаспадаркі;

**КРУК Мікалай Іванавіч** — галоўны інжынер ВА «Мінскводаканал» — за шматгадовую добрасумленную працу ў сістэме водаправодна-каналізацыйнай гаспадаркі.

Прэс-цэнтр Мінгарсавета.

У МІНГАРВЫКАНКАМЕ

### НА РЫНКУ ПРАЦЫ. ШТО ЗМЯНІЛАСЯ?

Ірына ГЕРМАНОВІЧ, «ДВ».

У прэс-цэнтры Мінгарвыканкама адбылася сустрэча журналістаў з прадстаўнікамі і супрацоўнікамі гарадской службы занятасці. У асноўным гаворка ішла аб рынку працы і перспектывах яго развіцця.

Вядома, што спад вытворчасці не мог не адбіцца на стане рынку працы. Як сведчыць статыстыка, колькасць занятых у народнай гаспадарцы Мінска ў параўнанні з 1993 годам скарацілася на 4 працэнты. Змянілася і структура занятасці. Вось некалькі лічбаў: на 5,7 працэнта паменшылася колькасць заявак у матэрыяльнай вытворчасці, у сферы абслугоўвання некалькі ўзрасла. На жаль, у 1,2 раза павялічылася колькасць звольненых па скарачэнню штатаў. Узровень беспрацоўя вагаўся ад 1,1 да 1,3 працэнта.

Што стаіць за гэтымі лічбамі? Амаль палова ўсіх беспрацоўных — моладзь да 30 гадоў. Па-ранейшаму «лідзіруюць» тут жанчыны.

Адна з асаблівасцей сённяшняга рынку працы — зніжэнне адукацыйнага ўзроўню. За мінулыя два гады доля беспрацоўных з вышэйшай адукацыяй значна знізілася. Пры гэтым больш чым у два разы ўзрасла колькасць беспрацоўных з сярэдняй адукацыяй. Павялічваецца і працягласць тэрміну беспрацоўя.

Найбольшую заклапочанасць выклікае так званае скрытае беспрацоўе. Па меркаванням спецыялістаў службы занятасці, узровень беспрацоўя ў цэлым складае 6,6 працэнта. У сувязі з гэтым гаварыць аб перспектывах развіцця рынку працы складана. Але не выклікае сумненняў адно — перспектывы гэтыя вельмі і вельмі нярадасныя. Таму сёння нельга забываць, што ў першую чаргу трэба спадзявацца толькі на сябе.

